Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

16 ліпеня 1997 года
СЕРАДА
№ 32
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Устойлівы і непаўторны смак

**БЯРОЗА.** Сыраробчы камбінат змог выжыць у суровым, непрадказальным рынкавым пераходзе, захаваць аб'ём і ўзровень выпускаемай прадукцыі, рабочыя месцы, самастойна выйсці на міжнародны рынак. Марку прадпрыемства добра ведаюць пакупнікі па шырокаму асартыменту малочных прадуктаў.

Апаратыўна рэагуючы на пакупніцкі попыт, цяпер тут рыхтуюцца распачаць выраб шакаладнай пасты з арахісавымі арэхамі ў элегантных шкляначках ёмістасцю 240 грамаў. Энергетычная каштоўнасць немалая – 358 кілакалорый на 100 грамаў прадукта. Шакаладная паста, ласкава названая „Вавёркай", каштуе параўнальна танна: адна ўпаковачка абыдзецца ў 9 тысяч рублёў.

На прадпрыемстве разлічваюць, што новая прадукцыя спадабаецца дзецям.

### Дзяржаўная казна пусцее

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Ведаеце, паважаныя чытачы, усходнюю прымаўку: як ні кажы халва, халва, халва, але калі яе ў роце няма, то і соладка ў ім не будзе...

Так і ў нас абстаяць справы з дзяржаўнай казной. Колькі афіцыйна не заяўляецца аб тым, што эканоміка наша стабілізуецца, колькасць стратных прадпрыемстваў памяншаецца, аб'ёмы прадукцыі растуць, а яе запасы на складах памяншаюцца, ў роце соладка не становіцца. Падмацуем гэтыя словы прыкладам па Івацэвіцкаму раёну. Па стану на 1.06.97 г. нядоімка па плацяжах у бюджэт склала 4097,1 мільёна рублёў, у тым ліку па плацяжах у бюджэт раёна – 2167 мільёнаў рублёў. Цяпер у раёне налічваецца каля 30 прадпрыемстваў, гаспадарак, арганізацый – нядоімшчыкаў. Сярод іх „лідыруе" Івацэвіцкі прыборабудаўнічы завод, потым „прызавыя" месцы займаюць Косаўскае МВА, Івацэвіцкі леспрамгас, ААА „Івацэвіцкі льнозавод", ААА „Райсельгастэхніка", калгас „Зара" (яны маюць адпаведна нядоімку на суму 1724,1, 614,6, 184,1, 196,1, 185,2, 87,2) і іншыя.

Як вядома, згодна з п. 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кіраўнікі і галоўныя спецыялісты прадпрыемстваў, гаспадарак і арганізацый, якія дапускаюць нядоімкі ў бюджэт, павінны пазбаўляцца ўсіх відаў прэмій. Мо такая мера дапаможа папоўніць дзяржаўную казну?

### Кондоминиум – выход из тупика?

**БАРАНОВИЧИ.** Работники коммунальных служб ломают головы, как решить проблему сохранения жилфонда в надлежащем состоянии, „выколотить" квартплату и меньше труда на это затратить. Выход подсказали специалисты Международной финансовой корпорации, представляющие эту солидную организацию в городе. По опыту других государств они предложили совместное домовладение. Это своего рода товарищества (юридические лица с уставом, печатью, расчётным счётом в банке), объединяющие жильцов нескольких домов для совместной эксплуатации и ремонта.

В Бресте, Кобрине и Барановичах уже созданы, так сказать, экспериментальные кондоминиумы. И жильцы довольно успешно несут на своих плечах груз забот о своих квартирах, домах, прилегающих к ним территориях. Говорят, дешевле обходится.

### З хуткасцю XXI стагоддзя

Запуск хуткаснага пасажырскага руху ад Берліна да Масквы праз Брэст кіраўніцтва Брэсцкага аддзялення чыгункі намерана ажыццявіць за кошт асабістых сродкаў і стварыць магістраль, якая дазволіла б развіваць хуткасць у 160 і вышэй кіламетраў у гадзіну. Нас моцна выручае ўнікальны аўстрыйскі комплекс па рамонту шляхоў, пасля работы якога не патрабуецца паўгадовая іх абкатка.

Ужо праведзены такі рамонт паміж станцыямі Косава-Палескае, Бронная Гара і Бяроза-Картузская. І гэтыя работы працягваюцца. Пасля іх завяршэння цягнікі пойдуць з хуткасцю 220 кіламетраў у гадзіну.



**● ФОТАСЮЖЭТ**

*Белыя птушкі, вы зноў прыляцелі*
*спытацца ў мяне, як справы мае?*
*Усё як раней – на жыццёвых арэлях*
*носіць паўсюль, ды чагось не стае.*

*Белыя птушкі, зайздрошчу я вам,*
*вашым свабодным крылаў узвівам...*
*Што адчуваеце вы ў сябе там,*
*на вышыні, у палёце імклівым?*

***Руслан БАЁК.***

***Фотаэцюд А. ГАНЧУКА.***

### Вы ходзіце ў кінатэатр?

Напэўна, многія з нас на гэтае пытанне адкажуць адмоўна. Аднак, у Івацэвічах кінатэатр „Партызан" яшчэ не закрыўся. Ды і не закрыецца, напэўна. У мінулым годзе „Партызан" наведалі 13.713.500 чалавек. А толькі за першае паўгоддзе гэтага года кінагледачоў было 11.288.000. Амаль дагналі мінулагодні ўзровень за 6 месяцаў!

Кінатэатр наведвае ў асноўным моладзь. Здараецца, фільм „круціць" і для дзесятка гледачоў, а здараецца – і для сотні. Шмат чаго паказваецца дзецям, асабліва ў час канікул. Дарэчы, і цэны невысокія: 4 тысячы рублёў аднасерыйная стужка, 8 – двухсерыйны фільм, кошт дзіцячага сеанса - 1 тысяча. Так што сачыце за рэкламнымі шчытамі каля кінатэатра і павышайце свой культурны ўзровень!

Для параўнання прыводзім вам інфармацыю аб колькасці наведвальнікаў кінатэатраў у параўнальна недалёкай ад нас Германіі. Людзі там жывуць, як вядома, і заможней за нас, і „адыкаў" дома ў кожнага хапае. Аднак у кінатэатры яны ходзяць.Рэкордная колькасць кінагледачоў у Германіі была ў мінулым годзе: касы кінатэатраў прадалі на 7,5 млн. білетаў больш, чым у 1995 годзе. Самым папулярным фільмам стаў галівудскі трылер нямецкага рэжысёра Ралана Эммерыха „Дзень незалежнасці", які глядзелі 9,2 млн. чалавек.

### Замежжа дае крэдыты. Толькі хто іх возьме?

Еўрапейскі банк развіцця і рэканструкцыі з мэтай развіцця малога і сярэдняга бізнесу праз беларускія банкі „Алімп", „Белзнешэканомбанк", „Белбізнесбанк" і „Прыёрбанк" прадастаўляе беларускім суб'ектам гаспадарання, якія займаюцца вытворчасцю прадукцыі, што будзе ісці на экспарт, крэдыты ў СКВ. Сума на аднаго заёмшчыка – ад 50 тысяч да 500 тысяч долараў. Працэнтныя стаўкі – прымальныя . Перыяд адтэрміноўкі выплаты ў выпадку патрэбы – 1-2 года.

Крэдыт можа атрымаць прыватнае, сумеснае ці дзяржаўнае прадпрыемства, якое знаходзіцца ў працэсе прыватызацыі і мае да 500 чалавек працуючых. Але крэдыты выдаюцца толькі на новыя праекты. Напрыклад,выкарыстоўваць іх на рэканструкцыю старых нашых заводаў забаронена. За мяжой хочуць, каб тыя, хто атрымае ў іх крэдыты, выпускалі канкурэнтназдольную прадукцыю, пры гэтым захоўвалі міжнародныя правілы аховы навакольнага асяроддзя.

Такім чынам, усім суб'ектам малога і сярэдняга бізнесу Беларусі даецца шанс для развіцця, канкурэнцыі па еўрапейскіх стандартах. Толькі ці хто выкарыстае гэты шанс? У Івацэвіцкім раёне, напрыклад, быў адзін чалавек, які змог бы выкарыстаць прадастаўленую магчымасць, бо меў для гэтага ўсё: жывёлагадоўчы комплекс у вёсцы Гічыцы, дзе працаваў і каўбасны цэх, кваліфікаваныя кадры і апарат кіравання. Сам валодаў у дасканаласці уменнем арганізоўваць вытворчасць і людзей. Гэты чалавек – У. А. Кудзінаў, былы дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Але ён некаму „не спадабаўся" і цяпер працягвае знаходзіцца пад арыштам. Не патрэбны такія „разумнікі" нашай дзяржаве?

### Кадры рашаюць усё

**БАРАНАВІЧЫ.** Сетка навучальных устаноў горада папаўняецца яшчэ адной адзінкай: па рашэнню ўрада на базе адной з выведзеных у Расію вайсковых часцей адкрываецца сярэдняя школа міліцыі. Сёлета на дзённае аддзяленне будзе залічана 120 чалавек.

### Лаўрэат літаратурнай прэміі

Тым, хто любіць прыгожае пісьменства і беларускую літаратуру, сочыць за творчасцю нашага земляка, былога выпускніка івацэвіцкай СШ №1 Міколы Купрэева, ёсць прычына паднясць келіх з шампанскім. Прэзідыум рады Саюза беларускіх пісьменнікаў прысудзіў яму літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова за кнігу паэзіі „Правінцыйныя фантазіі", выдадзеную ў мінулым годзе.

Віншуем лаўрэата з высокай ацэнкай яго творчасці, зычым яму новых поспехаў.

### Небяспечныя забаўкі

**БЯРОЗА.** Ці трэба каго пераконваць у тым, што дзяцей без нагляду пакідаць нельга? Аднак з'ява, калі дзеці прадастаўляюцца самі сабе і знаходзяць небяспечныя забаўкі, здаецца, становіцца звыклай...

Гарадскі аўтобус № 2 Бярозаўскага аўтапарку № 8 трымаў накірунак на камбінат сілікатных вырабаў. Вадзіцель ЛіАЗа рыхтаваўся ўжо зрабіць паварот, як раптам на дарогу выбегла дзяўчынка. Зарыпелі тармазы і... пачуўся рэзкі ўдар ззаду – гэта ў аўтобус урэзаўся ідучы за ім МАЗ. На шчасце, ніхто з людзей не пацярпеў, пасажыры аўтобуса атрымалі лёгкія ўдары. Лёгкім перапудам абышлося дарожнае здарэнне і дзяўчынцы. А вось машыны трэба раманта-ваць...

У гэты ж дзень малалетнія свавольнікі з вёскі Нарутавічы (калгас „Ніва") ледзь не спалілі сховішча, дзе захоўвалася 1,5 тоны сена. Пажарныя прыехалі своечасова і выратавалі ад агню нарыхтаваны корм.

### Ільготы ветэранам скасаваны

У законе „Аб ветэранах" непрацуючым ветэранам Узброеных Сіл і ветэранам працы, якія жывуць асобна ад дзяцей, былі скідкі па аплаце камунальных паслуг. Хоць нейкая палёгка была для старых людзей, якія аддалі сваю працу дзяржаве.

Напрыклад, двое адзінокіх пенсіянераў, якія жывуць у трохпакаёвай кватэры, за камунальныя паслугі плацілі кожны месяц 32 тысячы рублёў замест 52-х.

Указам нашага прэзідэнта і гэтыя льготы скасаваны з мая месяца,у Івацэвічах камунальнікі бяруць поўную плату за паслугі, пачынаючы з чэрвеня. Вось і дачакаліся „палёгкі" нашыя ветэраны...

● ЗАЛОЖНІКІ КАЛГАСНАГА ЛАДУ

# Пра буракі, сена і дапамогу

Пазваніла ў рэдакцыю жанчына:

**– Я жыву ў Падстарыні. Хоць бы вы да нас прыехалі ды паглядзелі, як нас, старых ды нямоглых, прымушаюць буракі палоць. Адмовіцеся, кажуць, то сена на карову не дадзім. Божа, як жыць?**

Наш карэспандэнт пабываў у вёсцы Падстарынь і сустрэўся з некаторымі яе жыхарамі.

Калгасніца Л. (70 гадоў):„Я толькі што выпісалася з бальніцы. Хвароба цяжкая. Урачы забаранілі мне нават хатнюю работу выконваць. А тут яшчэ і пяць радкоў буракоў далі прапалоць. А даўжыня ж па 400 метраў. Не пад сілу гэта. І дапамагчы няма каму. Дзеці са мною не жывуць. А муж – інвалід. Што ён адзін зробіць?

Калгасніца Б. (70 гадоў): „Жыву зараз адна. Муж быў ветэранам вайны, памёр год таму. Я ледзьледзь са сваёй гаспадаркай спраўляюся, а тут яшчэ і дзялку буракоў выдзелілі для праполкі. Добра, што дачка дапамагла. Я сама не справілася б. Крыўдна, што калгаснае кіраўніцтва не клапоціцца пра ветэранаў. Так, вясною, калі мералі соткі, выдзелілі і мне ўчастак зямлі, на якім, дарэчы, расло жыта. Сама наймала чалавека, які скасіў усё. Затым чатыры трактарныя прычэпы зялёнай масы вывезла з участка. Толькі пасля гэтага бульбу садзіла. А цяпер яшчэ і тыя буракі з апошніх сіл трэба палоць, бо сказалі, што сена на карову не дадуць. Ну, проста жывы здзек з людзей...

Калгасніца М.(69 гадоў):„І мне далі дзялку буракоў. Палоць не магу, бо нават хадзіць цяжка. Калі не дадуць сена, прыйдзецца карову збываць...

І яшчэ некалькі чалавек падыходзілі з адным і тым жа: старасць, няма здароўя, сілы, а рабіць прымушаюць, хаця сваё ўжо і адрабілі.

Я размаўляю са старшынёй праўлення калгаса „Бальшавік" І. В. Бахурам.

– Не магу ж я гэтыя радкі буракоў раздаць толькі работнікам праўлення калгаса, – гаворыць Іосіф Васільевіч.

– Працаздольным далі большыя дзялкі буракоў, а пенсіянерам – па некалькі радкоў. Давалі, вядома, тым, каму могуць дапамагчы дзеці або ўнукі, што часта наведваюцца да бацькоў і вязуць ад іх прадукты. Няхай дапамогуць сваім старым. Тым жа, хто жыве зусім адзін, буракоў не давалі...

– Раней было прасцей, працягвае І. В. Бахур. – У калгасе працавала брыгада паляводаў (жанчын 50-60), якая і займалася праполкай. Цяпер жа такой брыгады няма, і мы вымушаны прасіць пенсіянераў дапамагчы на прапалцы. Іншага выйсця ў нас няма.

Трэба сказаць, што ў асноўным усе работы на прапалцы вядуцца. Толькі некалькі дзялак не прапалата, ад іх адмовіліся пенсіянеры.

І тут жа Іосіф Васільевіч Бахур падышоў да гэтай праблемы з другога боку. Сапраўды, людзі ўжо састарэлыя і слабыя, але ж для пасадкі бульбы бяруць не дзесяць сотак зямлі, а ўсе пяцьдзесят. І ніхто з іх не сказаў: я хворы, слабы, не апрацую такі ўчастак. Наадварот, давалі б больш зямлі – не адмаўляліся б.

Іосіф Васільевіч прыгадаў пра вопыт калгасаў целяханскай зоны. Там за кожную сотку зямлі даюць сотку буракоў для праполкі. І людзі згаджаюцца на гэта. У „Бальшавіку" за пяцьдзесят сотак зямлі даюць толькі пяць радкоў – і то цяжка. Відаць, апрабаваны метад можа знайсці прапіску і ў калгасе „Бальшавік".

Каму ж даваць сена, а каму – не? Рашэнне па гэтаму пытанню прыняло праўленне калгаса: не хочаш палоць буракі – не атрымаеш сена.

Такім чынам, становішча складваецца такое: праўленне не мае рабочых рук, прымае жорсткае рашэнне: прымусіць працаваць пенсіянераў, прычым і тых, якім ужо гэтая праца супрацьпаказана. Матывацыя: соткі для пасадкі бульбы яны бяруць і немалыя, сіл хапае апрацоўваць. Той нюанс, што гэтыя соткі бяруць не для раскошы, а для таго, каб выжыць, парсючка пракарміць (бо без яго на мізэрную вясковуюпенсію не пражывеш,не прымаецца ў разлік. Як не бярэцца ў разлік тое, што чалавек, які ўсё жыццё працаваў у калгасе, за сваю працу атрымліваў мізэрную аплату (а то і зусім палачкі – працадні), страціў на калгаснай рабоце здароўе і цяпер атрымлівае нікчэмную пенсію. Усім відавочна, што сённяшнія калгаснікі пенсіянеры – заложнікі таго калгаснага ладу, аб якім нядаўна гаварылася і пісалася захлёбываючыся.

А што ж праўленне калгаса? З году ў год бяднее вёска, моладзь пакідае яе. І не ў адным „Бальшавіку" няма каму палоць буракі. Атрымліваецца, што і праўленне калгаснае, і яго старшыня, спецыялісты таксама з'яўляюцца заложнікамі „шчаслівага" калгаснага ладу. Яны, як і тыя нямоглыя старыя, якіх прымушаюць палоць пад пякучым сонцам буракі, трапілі (яшчэ з часоў калектывізацыі) у зачараванае кола, вырвацца з якога, здаецца, пакуль немагчыма...

**А.ШЫЛА.**

# Наслушался, насмотрелся

Случилось так, что четыре праздничных выходных я провел в одном из колхозов Барановичского района. Подсоблял знакомым сельчанам. Сено греб,в свекловичных „рядах" вкалывал, за колхозным стадом присматривал, коров на ферме кормил. Насмотрелся, наслушался, мозолями попробовал жизни землепашца.

Отправился на луга пастуха подменить. Возле деревянной будочки 1,5 х 1,5 м, продуваемой сквозняками, промываемой дождями, отдыхали обессиленные муж с женой. В траве – телёнок.

–На поле растелилась„2026" (номер коровы, приклепанный к уху). – Хорошо шнурок под рукой оказался. Еле вытащили теленка. А то опять мертвый родился бы. Ждем трактор с прицепом, чтобы отправить новорожденного на ферму. Чёрно-пёстрый телёнок пытается встать. Вот он уже на коленях... на нетвердых ногах. Спотыкается, шатается. Укрепился, стоит. Смотрит. Мы для него первые живые существа нового мира.„Мамы" он не увидит. Увезут в телятник на молоко от стада.

... Механизатор и пастух забрасывают его в прицеп на металлический пол.

–Говорила, растелится сегодня.Не надо выгонять, да кто послушает пастуха, – жалуется женщина.

Гибнут телята в кочевом „роддоме". Их смерть актируют, трупы закапывают на обочине, в овражке. Сменились. Электропастух не работает. Сели батарейки. Коровы сразу „раскусили" нашу слабинку. Рогами поддевают проволоку, лезут в „шкоду". К вечеру мы в „мыле" – все время сгоняли стадо в кучу. Вода в бочке кончилась. Животные обезумели от жажды. Тракторист где-то замешкался. – А все это бьет по молоку, – говорит напарник, – один раз сто литров недодали. Корова должна пастись спокойно, запивая водой, когда ей хочется, прикусывая на ферме вдоволь сенажом. Из-за жары, неисправного электропастуха, пустых перегонов стадо изматывается. Что с него возьмёшь?

...„Ряды" кормовой свеклы 500-метровой длины. Лебеда, сурепка, василек – в пояс... „Тяпаем", разыскивая листья свеклы, чтобы не срубить невзначай. Наскочил агроном, прицелился на глазок:

– Средняя засоренность, – определил, что означает пониженные расценки на прополке.

– А высшая – это лебеда выше головы? – язвит колхозница.

– Восемь тысяч за сотку, – объявляет агроном.

– За две прополки или одну?

– Разберемся, – фыркнул „газиком" и укатил.

– Будет, как в прошлом году. Обещал по 120 кило сахара за сотку, а выдал по 90, – сокрушается женщина. – Обманщики. Перед началом полевых работ горы золотые сулит. При расчёте – слёзы получаем.

Жара. Вода – бутылка „Трайпла" из колодца. Еда – кусок топлёного на солнце сала и сухарь. Тяпки тупые. Заточить негде. „Бабы" через час „рубки" одеревеневших стеблей лебеды руки обрывают. Я нашел в сарае старинное ручное „точило". Починил, приладил кастрюлю с водой для смачивания круга. Наточил тяпки. „Ох, здорово! – обрадовались пенсионерки – основная рабсила колхоза, – кажется сутки секла бы такой тяпкой." А когда притащил из города куски наждачного круга и посоветовал через час-полтора работы подтачивать тяпки, – и вовсе духом воскресли мои старушки. „Кабы наше начальство так позаботилось..."

– Воткнули семена в необработанную землю. Для отчёта, — соседка по „дзялке" сердито тыкает ручкой тяпки в землю, – что тут вырастет... Рубим, рубим... Уберём-курям на смех. А платить будут от тонны... Какие там тонны..

... Утром сбегал на ферму „Геленку" свежескошенную траву в кормушки разбросать.

– Где цепь висит, туда и бросай по восемь вилок, – поучает пастушка. Она работает два дня со стадом, два – на ферме. Оказывается, цепь спущена в кормушки, значит, здесь и стоит корова. Цепь завязана на стойке – пустое место. Четверть цепей на стойках.

– Нету скотины. Зимой и весной бизнесмены порезали,– замечает женщина мой вопросительный взгляд.

... Разгружаем прицеп. За час – рубашку выкручиваю.

–Дядя Петя, молокосос приехал, – мальчишка Саша, десятилетний подпасок, подсобник на ферме, рыбачок и весельчак, мамин помощник, заговорщицки манит рукой.

– Иди, молока попьём.

По его лексикону „молокосос" – это молоковоз, потому что молоко сосёт через шланг.

Литровая кружка молока, щедро налитое дояркой, смывает усталость.

– Каб ты сдох! – визжит доярка, отпускающая молоко „молокососу".

Оглядываюсь: черный, лохматый фермерский пес всеми "четырмя" стоит в емкости-холодильнике с молоком и жадно лакает. Получив куском провода по спине, пулей вылетел во двор.

– Парень, забей эту дохлятину, бутылку поставлю.

– Саша, – приказывает мама-пастушка. – Сегодня останешься дома: стереги магазин. Как хлеб привезут, сразу беги и купи четыре булки. Гляди, не прозевай!

Поставщики хлеба постоянно держат деревню „на стреме".Привозят мало и не всегда.

–Хорошо, город рядом, – говорит дядя Ваня, пенсионер, живойкак ртуть, колхозник на „горячих" точках. Зло щурит глаза – угольки:

– Хлеб растим, а добываем с боем. Каб яно...

Вечером моемся в тазиках, поливая друг дружку с кружки . О бане речи нет. О клубе – не слыхать. Столовая на центральной усадьбе с астрономическими ценами. Телефонный аппарат – в сумке бригадира. Не допросишься позвонить.

...В магазин, на ферму, мехдвор хожу по разным поручениям друга – хозяина. На „свежий глаз" вижу: прицепы,культиваторы, сеялки, бункера – помятые, сломанные стоят, валяются на пустырях, за огородами. Металлолома – горы. Искорёженные конструкции, пустые обветшалые здания – унылая картина колхозных задворок. Попал на „центральную" – мехдвор в отличном состоянии. Склады побелены. Контора деловито „пишет". Так вот хозяйничаем. С парадного хода – лоск, показуха. На задворках – разруха, правленческий беспредел. Оплата труда – на глазок и „милосердие" правления. Работают „втёмную". А председатель в райисполкоме „насчету":Вроде бы как передовик среди отстающих.

Хотел было назвать колхоз, да вспомнил, что во многих местах так: стараются не для людей, а для районного начальства. Чтоб на плаву удержаться.Урожай, надои, мясо – не в счёт.Оправдание всегда найдётся. А снимут – дом-замок в городе готов, машина – сверкнижка полна. Руч-койбывший своим колхозникам-батракам сделал:пашите, бедные, на другого дядю. Вы трёхжильные Сдюжите на сухарях. Не впервой. А нам, красным помещикам, всегда теплое местечко найдётся. Мы не мафия, но друг за друга крепко держимся.

А колхознику и попрощаться некогда с очередным проходимцем... Не разогнуть спину, не поднять головы, не выпрямиться. Хлеба растить надо, по своему хозяйству „поухаживаться".Чтоб и себе крохи на зиму заготовить.

...Четыре выходных пролетели... Хозяин-друг пожал на прощанье руку:

– Спасибо... Извини... Приезжай...

Усталость... Стыд... Надежда...

**П. НАГНИБЕДА.**

● ДЕТИ И МЫ

# На помощь центра можно рассчитывать

*Сотни семей страдают от того, что в них появился на свет и живёт психически больной ребёнок. Обычно их отправляют в специальные детские дома и школы-интернаты. Многие прячут таких детей от посторонних глаз, стыдясь своей беды.*

*Барановичский центр диагностики и реабилитации успешно справляется с этими заболеваниями. Если, конечно, они не запущены. Специалисты его, обладая серьёзной научной методикой коррекции психики, социальной адаптации, улучшили здоровье сотен таких детей. Есть здесь и телефон доверия, по которому психологи буквально спасают отчаявшихся молодых людей. Достаточно позвонить по номеру 2-34-91, даже анонимно рассказать о своих несчастьях и вы получите квалифицированную помощь.*

*Кстати, центр обслуживает города Барановичи, Ляховичи, Ивацевичи, Ганцевичи, Лунинец, Березу и районы.*

***П. НАГНИБЕДА.***

# Открыты новые счета в банках

Для зачисления средств, полученных от проведения республиканского субботника 28 июня 1997 года, открыт счёт № 3130000003508 в филиале 111 АСБ „Беларусбанк".

Открыт также счёт для зачисления добровольных взносов по ликвидации последствий урагана. Он открыт Брестским облфинуправлением. Его номер 3781911020013 в Национальном банке г. Бреста, код 004.

● ТАКАЯ ВОТ ЖИЗНЬ

# Ни шагу без штрафа

*Жизнь каждого гражданина сопряжена со множеством опасностей. Важную роль здесь играют различные запреты и ограничения, нарушение которых может привести к стремительному похудению кошелька. Причем большинство людей хоть и догадываются, но точно не знают, какие штрафы грозят им в повседневной жизни.*

### НЕМНОГО ЭКЗОТИКИ

Отчего выпалываются сорняки на огородах и дачных участках? Ответ, вроде бы, очевиден: хозяева посевов беспокоятся за будущий урожай. Однако государство постаралось дополнительно простимулировать этот процесс статьей 100 Административного кодекса – „Непринятие землепользователями мер по борьбе с сорняками". Вначале это нарушение влечет лишь предупреждение, а непрополка в течение года после предупреждения – уже штраф в размере от 1 до 3 минимальных заработных плат (МЗП) на граждан и от 2 до 5 МЗП на должностных лиц. Но это еще не все. „Злостное непринятие мер по борьбе с сорняками" карается штрафом в размере от 3 до 5 МЗП для рядовых граждан и от 5 до 10 для должностных лиц.

Некоторые заболевания связаны не только с расходами на лекарства, но могут повлечь и материальную ответственность. Например, за сокрытие больными венерическими заболеваниями источника заражения, а также лиц, имевшими с ними „контакты, создающие опасность заражения венерической болезнью" (ишь, как выкрутились авторы кодекса в щекотливой формулировке!) размер ответственности составит до 5 МЗП.

Многие наказания остались в кодексе от старых советских времен. К примеру, статьей 163 предусмотрены наказания за „приставание к иностранным гражданам" с целью приобретения у них вещей (другие цели приставания регламентируются иными статьями). Уже забытые „фарцовщики" наказываются предупреждением или штрафом в размере до 5 МЗП с конфискацией приобретенных вещей либо без нее. Нарушение правил обучения каратэ (другие виды восточных единоборств остались вне внимания) карается штрафом в размере до 5 МЗП.

### НА ОТДЫХЕ

Право на отдых гражданам следует осуществлять осмотрительно. Так, к примеру, купание в „запрещенных местах рек, озер, водохранилищ, прудов и иных водоемов" (к иным, видимо, следует отнести ручьи, омуты, колодцы и отстойники) грозит предупреждением либо штрафом в размере до 1 МЗП.

Следует быть осмотрительными не только на воде, но и в лесу. Так, согласно ст. 69 кодекса, самовольный сбор плодов, семян, орехов и ягод дикорастущих растений, а также лекарственных растений, грибов и т. п. на участках, где это запрещено (заповедники, заповедные зоны национальных парков – вотчина пресловутого г-на Титенкова) будет стоить любителю лесных даров от 1 до 3 МЗП, а если любитель окажется должностным лицом – от 5 до 25 МЗП.

В обычном (нетитенковском) лесу сбор плодов и ягод с нарушением установленных сроков или с применением запрещенных методов грозит штрафом в размере от 1 до 5 МЗП, должностным лицам – от 10 до 50 МЗП. А засорение лесов отходами и отбросами может повлечь наказание в размере от 1 до 5 МЗП, для должностных лиц – от 5 до 25 МЗП.

### ПОРОКИ И УВЛЕЧЕНИЯ

Если у вас есть хобби – например, изготовление и хранение крепких спиртных напитков домашней выработки или изготовление и хранение без цели сбыта (просто так, для коллекции) самогонных аппаратов, то оно будет вам стоить от 3 до 5 МЗП. А приобретение самодельных крепких напитков карается штрафом до 2 МЗП.

Штрафы за любовь к алкоголю весьма разнообразны в административном кодексе. Из практики известно, что распитие спиртных напитков в большинстве случаев может происходить на работе, в общественном месте или дома. Если до наказания последнего процесса государство вряд ли доберется, то распитие на производстве, либо пребывание на работе в нетрезвом состоянии повлечет наложение штрафа до 2 МЗП, а участие в попойках всякого начальства, непринятии им мер по отстранению пьяных от работы грозит штрафом в размере до 3 МЗП. То есть, выпить в служебном кабинете значительно дешевле, чем выбросить пустую бутылку на лоне природы.

Распитие спиртных напитков в общественных местах и появление в них в нетрезвом виде – весьма невинное занятие. Вначале вас предупредят или выпишут штрафик в размере до 1 МЗП. А если это произошло повторно в течение года, придется расстаться с суммой в размере до 2 МЗП. Но попавшись в третий раз в течение года, можно получить даже исправительные работы на срок от 1 до 2 месяцев с удержанием 20% заработка. В исключительных случаях, если не понравится ваша личность, можно и сесть на 15 суток.

Не стоит пить с несовершеннолетними, даже если вы являетесь их родителями. За это грозит от 5 до 10 МЗП. Если же приобретать спиртное для „недостигших" (до 21 года), то вас могут обязать выделить на нужды государства до 10 МЗП.

Среди людей, исповедующих полную свободу личности, может вызвать дискуссии адекватность наказания за занятие проституцией. Тем не менее, ставшие на путь „жриц любви" вначале получают предупреждение или штраф в размере до 10 МЗП, а попавшиеся повторно в течение года уплатят до 20 МЗП.

Шутники-оригиналы также могут быть наказаны за свое увлечение: за заведомо ложный вызов специальных служб вроде скорой помощи, милиции и т. п. определен штраф до 10 МЗП.

### ДОМА И В БЫТУ

Стены собственной квартиры не спасают от возможности попасть под действие административного кодекса.

Предупреждением либо штрафом до 5 МЗП карается самовольное использование в корыстных (интересно, что имеется в виду?) целях электрической либо тепловой энергии или газа, нарушение правил пользования электрической либо тепловой энергии или газом в быту.

Государство хоть и очень вяло, но пытается заставить граждан относиться к животным как к братьям меньшим и отвечать за их прегрешения. Нарушение правил содержания собак, кошек и хищных животных в населенных пунктах повлекут предупреждение или штраф в размере до 5 МЗП (для должностных лиц – до 10 МЗП), а если это нарушение причинило ущерб имуществу либо здоровью граждан, то штраф может быть увеличен до 10 МЗП (до 15 МЗП для начальников). За жестокое обращение с животными, повлекшее их гибель или увечье, или истязание животных можно получить штраф до 20 МЗП.

Распространенное увлечение модернизацией балконов также может негативно повлиять на кошелек. Согласно статье 143, самовольное переоборудование и даже перекрашивание балконов влечет предупреждение или наложение штрафа до 3 МЗП. А вывешивание на балконах и лоджиях в дневное время белья и других ужасных предметов, портящих внешний вид зданий, на некоторых, определенных горисполкомом улицах, как и вывешивание объявлений на столбах, заборах, зданиях и других не предусмотренных для этого местах, влечет предупреждение или штраф до 1 МЗП (за эти деньги вполне можно сходить в прачечную самообслуживания).

### НА ТРАНСПОРТЕ

Самое распространенное нарушение – безбилетный проезд. Похоже,

(Окончание на 4 стр.).

● ЗНАКИ ЗОДИАКА

### ЛЕВ (23.07 – 22.08)

Знаменитые личности-Львы: Карл Густав Юнг, Фидель Кастро, Жаклин Кеннеди, Генри Форд, Альфред Крупп, кайзер Франц Иосиф, Джон Голсуорси, Ги де Мопассан, Мата Хари, Бенито Муссолини, Наполеон I, Вальтер Скотт, Джордж Бернард Шоу.

Лев имеет властный характер, умеет быть великодушным и снисходительным, но в гневе ему нет равных. Льву нужно вести гармоничный образ жизни, разумно чередовать отдых и работу, не работать на „износ", несмотря на то, что резерв жизненных сил очень велик. Льву никогда не следует нервничать и суетиться, изменяя своим „царским" принципам. Ему также необходимо достойное окружение, дисгармония может вызвать внезапный нервный срыв, болезнь.

Прирожденный руководитель, Лев может быть журналистом, дизайнером, музыкантом, менеджером, предпринимателем, ученым, адвокатом, писателем, общественным деятелем, переводчиком, экскурсоводом, диктором, дирижером. Отличительная черта Льва – авторитарен и любит лесть.

Женщины-Львы – хорошие воспитатели, няни и домашние хозяйки, социологи, психологи. В любви они искренни и щедры, не прощают измены. Предпочитают общество мужчин.

● ДЛЯ ВАС, МАМЫ

### ГОТОВЬТЕ КАШИ!

Ребенку старше года готовьте полувязкие, вязкие, а с трех лет и рассыпчатые каши на воде, молоке, овощном и фруктовом отварах, а также суфле, пудинги, котлеты, биточки и запеканки. Каши можно давать как самостоятельное блюдо или как гарнир к мясу, рыбе, птице.

Крупу перед варкой обязательно переберите и несколько раз промойте в теплой воде.Манную крупу достаточно просеять сквозь сито, а гречневую, перебрав, подсушить в духовке. Заправляя супы, крупы берите 1-2 чайные ложки на 150 г жидкости.

Чтобы приготовить полувязкую кашу, жидкости надо взять в 4-4,5 раза больше, чем крупы. Для приготовления вязкой каши жидкости требуется в 3-3,5 раза больше, чем крупы. Суфле и пудинг готовьте из полувязких каш, котлеты, биточки и запеканки – из вязких. В блюда из круп включайте свежие и сухие фрукты и овощи. Эти продукты дополняют друг друга по содержанию важнейших питательных веществ.

С двух лет в рацион ребёнка следует включать и блюда из бобовых – гороха, фасоли, сои. В них содержатся те же питательные вещества, что и в крупах.Особенно важно то, что бобовые богаты белками, которые по аминокислотному составу близки к белкам животного содержания. Поэтому их желательно давать ребенку 1-2 раза в неделю вместо мяса и рыбы.

Перед приготовлением бобовые следует замачивать 8-12 часов.

Блюда из муки и макаронных изделий можно давать ребенку начиная с полутора лет, но не чаще 2-3 раз в неделю, так как они менее полезны.

● ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

### ДОМАШНЯЯ ХИМЧИСТКА

Пятна от лака (масляного) уничтожают теми же средствами, что и пятна от масляной краски. Для чистки пятен от нитролака применяется ацетон или эфир. Эти вещества легко воспламеняются, поэтому и пользоваться ими надо подальше от огня и при чистке не курить.

Спиртовые лаки очищаются при помощи винного спирта.

Блеск на залоснившейся шерстяной и полушерстяной одежде удаляют несколькими способами:

– черные и темно-коричневые вещи протирают жесткой щеткой, смоченной в очень горячем кофе;

– небольшие залоснившиеся места протирают кусочком шкурки или чернильной резинкой;

– большие поверхности протирают бензином или нашатырным спиртом пополам с горячей водой, посыпают хорошо промытым песком, трут в разных направлениях жесткой щеткой, а затем песок вытряхивают;

– залоснившиеся места посыпают мелкой столовой солью или молотой пемзой и протирают резиновой губкой, затем тщательно вытряхивают и прочищают жесткой щеткой.

Пятна от хны на белых тканях смачивают на 15-20 минут смесью из 1 части нашатырного спирта, 5 частей воды и смачивают теплой водой.

# Для дома, для семьи, для души...

● ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО?..

### ПОЛНЫЙ ТИТУЛ ИМПЕРАТОРА

В 1913 году полный титул императора звучал так: Император и самодержец Всероссийский, Московский, Киевский, Владимирский, Новгородский, Царь Казанский, Царь Астраханский, Царь Польский, Царь Сибирский, Царь Херсонеса Таврического, Царь Грузинский, Государь Псковский и Великий Князь Смоленский, Литовский, Волынский, Подольский и Финляндский, Князь Эстляндский, Лифляндский, Курляндский и Семигальский, Самогитский, Белостокский, Карельский, Тверской, Югорский, Пермский, Вятский, Болгарский и иных, Государь и Великий Князь Новгорода низовской земли,Черниговский, Рязанский, Полоцкий, Ростовский, Ярославский, Белозерский, Удорский, Обдорский, Кондийский, Витебский, Мстиславский и всея Северные страны Повелитель, и Государь Иверской, Карталинской и Кабардинской земли и области Армянской, Черкасских и Горских князей и иных Наследный Государь и обладатель, Государь Туркестанский, Наследник Норвежский, Герцог Шлезвиг-Гольштейнский, Сторманский, Дитмарсенский и Ольденбургский и прочая, и прочая, и прочая.

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

### ХОЧЕШЬ ИМЕТЬ КРЕПКИЕ КОСТИ – ЕШЬ ВИНОГРАД

Американские ученые Ф. Нильсон и К.Хант установили, что содержащийся в фруктах и овощах микроэлемент бор помогает сохранять кости от преждевременного износа в пожилом возрасте. Больше всего солей борной кислоты содержит виноград. Ученые утверждают, что в одном стакане виноградного сока или вина содержится 1 миллиграмм бора. Богаты бором также яблоки, груши, миндаль, сливы, морковь. При исследовании самый лучший эффект был получен у женщин старше 45 лет, которые принимали ежедневно 3 миллиграмма бора. Для пожилых людей очень важно питание, содержащее много фруктов и овощей, как и богатых кальцием молочных продуктов, потому что условием защитного эффекта бора является наличие достаточного количества кальция.

● УЛЫБНИТЕСЬ

● Муж вносит домой новый телевизор. Жена спрашивает:

– А зачем это на упаковке нарисована рюмка?

– Что за глупый вопрос? Это значит, что покупку надо обмыть...

● Животных, которых мало, занесли в „Красную книгу", а животных, которых много, – в книгу „О вкусной и здоровой пище".

● ТАКАЯ ВОТ ЖИЗНЬ

# Ни шагу без штрафа

(Окончание. Начало на 3-й стр.).

всем уже известно, что сумма штрафа в городском транспорте составляют уже не 0,1, а 0,5 МЗП.

Стоит отметить странные размеры штрафов на негородские виды транспорта. Наиболее привлекательным выглядит безбилетный полет пассажиров. Штраф в размере 0,2 МЗП очень уж контрастирует с ценами на авиабилеты. Остается лишь решить проблему попадания на самолет – а там уж вряд ли ссадят.

Правонарушения на железной дороге стоят дешево. Выбрасывание мусора из окон и дверей вагонов, а также курение в неустановленных местах влечет за собой предупреждение либо штраф в размере от 0,1 до 0,5 МЗП. На такую же сумму оценивается и курение в метро.

В самолете следует себя вести особенно корректно. Невыполнение распоряжений командира воздушного судна влечет предупреждение либо штраф в размере от 2 до 3 МЗП, а нарушение правил фотографирования, киносъемки и пользования средствами радиосвязи на борту приведет к конфискации пленки вместе с предупреждением либо штрафом от 0,5 до 1 МЗП.

**ВЫХОДЯ НА УЛИЦУ...**

...стоит смотреть по сторонам. И все уличные штрафы – самые низкие во всем кодексе. Нарушение пешеходами правил дорожного движения, вроде неподчинения сигналам светофора, перехода проезжей части в неустановленном месте, несоблюдение требований дорожных знаков и т. п. влечет предупреждение или наложение штрафа в размере 0,05 МЗП. Если все это создало аварийную обстановку, то штраф возрастет от 0,1 до 0,25 МЗП, а если нарушение повлекло легкие телесные повреждения или материальный ущерб – придется заплатить от 0,5 до 1,5 МЗП.

**ДЛЯ ВОРИШЕК И МАТЕРЩИННИКОВ**

Помните, что мелкое хищение государственного либо общественного имущества (стоимостью до 1 МЗП) влечет наложение штрафа в размере от 2 до 5 МЗП или исправительные работы сроком от 1 до 2 месяцев с удержанием 20% заработка.

Мелкое хулиганство, т. е. нецензурная брань в общественных местах, оскорбительное приставание к гражданам и другие подобные действия могут привести к уплате штрафа до 2 МЗП или к исправительным работам на срок до 2 месяцев с удержанием 20% заработка. А если по обстоятельствам дела с учетом личности нарушителя (индивидуальный подход!) применение этих мер будет признано недостаточным – обеспечен арест до 15 суток.

**ДЕЛАЯ БИЗНЕС**

Стоит быть осторожным, поднимая благосостояние продажей чего-небудь с рук на улицах. За торговлю, например, редиской или самовязаными носками вас могут оштрафовать на сумму до 2 МЗП, а если застукали за продажей промышленных товаров – до 3 МЗП, да еще могут и конфисковать предмет торговли. Кстати, торговля в неустановленных местах с лотков, тележек, автомашин и т. п. карается только штрафом до 2 МЗП, не предусматривая конфискации. Так что подыщите сначала лоток – дешевле обойдется.

Самый худший вариант попасть под действие штрафа – незаконные валютные операции. Еще недавно это регулировалось административным кодексом, пока Лукашенко лично не заинтересовался валютой. Президентским декретом за скупку, продажу, обмен валюты предусматривается либо огромный штраф – от 100 до 300 МЗП, – либо административный арест.

**ПАСПОРТ И ПРОПИСКА**

Проживание без паспорта и прописки повлечет за собой предупреждение или наложение штрафа в размере до 3 МЗП. На такую же сумму может быть оштрафован хозяин дома или квартиры, кто пустил к себе пожить человека без паспорта.

Прием на работу граждан без паспорта либо проживающих без прописки обойдется должностным лицам вначале в штраф до 5 МЗП, при повторном нарушении в течение года – до 10.

Естественно, перечень случаев, когда граждан обязывают поделиться с государством деньгами, не ограничивается вышеприведенными. В последнее время популярными стали штрафы „за политику", о чем СВАБОДА сообщает едва ли не в каждом номере.

В заключение следует заметить вот еще что. Несмотря на то, что кодексом предусмотрено наложение штрафов до определенной суммы либо предупреждение, практика показывает, что в большинстве случаев административные комиссии и суды выбирают наихудший для кошелька вариант.

**Алесь САДОВСКИЙ.**
**(„Свобода").**

● СТОП-КАДР

*Дзеткі, як кветкі.*

*Фотаэцюд А. ГАНЧУКА.*

● КРЫМІНАЛ

## Век свабоды не бачыць

*Ці то наслухаўшыся казачных гісторый ад сваіх сяброў па камеры, ці то пазайздросціўшы лёгкім заробкам рэкеціраў, выпрабаваць свой лёс на дадзеным полі дзейнасці вырашыў 26-гадовы жыхар Белаазёрска. Сваё ўваходжанне ў "вялікі бізнес" пачаў ён з вымагальніцтва ў дзвюх прадпрымальніц, якія гандлявалі ў вёсцы Быцень Івацэвіцкага раёна. У выпадку невыканання яго патрабаваснняў пагразіў расправай. Не на талерачцы з блакітнай аблямоўкай, з рук у рукі жанчыны перадалі кліенту па 100 тысяч рублёў кожная.*

*Гэта было ў 15 гадзін, а толькі вечарам прадпрымальніцы адважыліся пра сваю бяду расказаць суровым хлопцам у форме колеру хакі.*

*Аператыўнікам удалося хутка натрапіць на след рабаўніка і затрымаць яго. Залётная пташка з Белаазёрска аказалася стрэляным верабʼём: за нелады з законам некалькі разоў адбываў пакаранне ў месцах не вельмі аддаленых. Усяго дзевяць дзён пабыў на волі пасля апошняга выхаду з-за кратаў, і зноў давядзецца хлопцу пераапранацца ў звыклую турэмную робу.*

*Л. САШЫН.*

● ЗДАРЭННІ

## Самагубцу ўратавала паліто

Скончыць жыццё самагубствам спрабаваў раніцай 2 ліпеня на мінскай плошчы Незалежнасці 42-гадовы прадпрымальнік з Баранавічаў Мікалай Васіленка.

Напярэдадні ён патэлефанаваў у рэдакцыі некалькіх газет і паведаміў, што збіраецца ўчыніць самаспаленне. У прызначаны час каля станцыі метро карэспандэнтаў сустрэў мужчына, апрануты, нягледзячы на спякотнае надвор'е, у цёплае паліто. Ён сказаў, што рашыўся на самагубства, бо падатковая інспекцыя незаконна абрабавала яго і ён цяпер не можа расплаціцца з крэдыторамі. Тут жа Васіленка раздаў прысутным свой адкрыты ліст, абліў сябе бензінам і падпаліў. Карэспандэнтам удалося сарваць з яго ахопленае полымем паліто і збіць агонь са штаноў. Пакуль журналісты бегалі выклікаць хуткую дапамогу, няўдачны самагубца некуды знік. Добра, што на гэты раз жаданне жыць у чалавека перамагло.

**(Наш кар.).**



● ПАКУПНІКУ НА ЗАМЕТКУ

## Жука клянуць. А ён таўсцее

Той, хто пасадзіў і даглядае сёлета бульбу, – у адчаі: вельмі ж шмат на зялёных пабегах каларадскага жука і яго лічынак. Некаторыя ўчасткі, асабліва на пенсіянерскіх дзялках, выглядаюць як кусты маліны.

Што рабіць з такой навалай, дзе шукаць паратунку ад ненажэрнага жука? Ну, вядома, трэба ехаць у івацэвіцкі магазін гаспадарчых тавараў і купляць для яго якую-небудзь атруту. Так і зрабіў. У магазіне мне прадалі дэціс і фостак (2 ампулы ва ўпакоўцы, разлічаныя на 2 вядра вады). За кожную ўпакоўку заплаціў па 20800 рублёў. Расхвальвалі прадаўцы гэтыя сродкі, слоў не шкадавалі.

Рэклама – справа вялікая. А калі яшчэ ідзе яна ад асоб з дзяржаўнага сектара, дык як ёй не верыць. Заплаціў я грошы, купіў атруту, хутчэй на поле паехаў. Патравіў жука.

Праз дзень прыехаў паглядзець. О, божа, на бульбяных кустоўях „маліны" нібы ўдвая прыбавілася. Дзе-ніцдзе ад зялёных парасткаў адны ражны засталіся. Мала таго, што грошыкі, затрачаныя на пакупку атруты для жука, прапалі, дык і бульба, тэрміны апрацоўкі якой заканчваюцца,можа быць з'едзена паразітам.

Добра, што людзі падказалі: не слухай ты рэкламы івацэвіцкіх кааператараў. Купі ў прыватніка „Каратэ" – магутны інсектыцыд для барацьбы з шкоднікамі сада і агарода. Ампула атруты каштуе 50 тысяч рублёў і разлічана на 5 вёдзер вады. Што я і зрабіў. І бульбу выратаваў, і грошы – з'эканоміў.

А івацэвіцкім кааператарам хачу параіць: не ўводзьце людзей у зман сваімі дэцісамі і фостакамі. Ад іх каларадскі жук толькі таўсцее.

**Ф. ГОЛАД,**
**жыхар г. Івацэвічы.**

● ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ...

## БЕЛАРУСЫ АПАГАНІЛІ НЕБА, І ЯНО Ў АДКАЗ ПАСЛАЛА ЎРАГАН?

**Калі верыць астролагам, нядаўні разгул стыхіі не быў выпадковым здарэннем.**

**Каментарый з гэтай нагоды дае беларускі астролаг Вераніка КУДРАЎЦАВА.**

Згодна са старажытнымі авестыйскімі тэкстамі гэтыя дні называюцца сабачымі. Менавіта ў гэты час у свет людзей імкнуцца ўварвацца цёмныя сілы, каб "патаптацца" па здабытках, стварэнях людскіх рук і розуму. У гэты час зямляне асабліва безабаронныя. Дарэчы, Гітлер напаў на Савецкі Саюз 22 чэрвеня – ён быў містыкам. Старажытныя людзі ў гэты перыяд сцішваліся, не дазвалялі лішняга ні з'есці, ні сказаць. Яны імкнуліся адасобіцца, увесь час маліліся і пасціліся.

Аднак прырода мела свае „меркаванні" і на заклікі куплялася не заўсёды. Здараліся эпідэміі, стыхійныя бедствы. У „чорны" панядзелак 23 чэрвеня гэтага года Сонца знаходзілася ў другім градусе Рака – той пазіцыі, якая сведчыць аб апаганенні неба. А яно стварае чалавеку ахову, дапамагае стаць на шлях ісціны. Нябёсы абараняюць слова, праўду. Калі апаганьваецца слова, расце крывадушнасць і хлусня, калі інфармацыя выкарыстоўваецца няпраўдзіва, цёмныя сілы разбураюць ахову.

Стыхія папярэджвае аб тых падзеях, якія павінны адбыцца ў другой палове студзеня – першай палове лютага наступнага года. Гэта будзе час вялікай "ліхаманкі": абвастрыцца неабходнасць ачышчэння ад дрэнных праяў, пераўтварэння ўсіх сфер грамадскага жыцця і ў тым ліку фінансавай. У гэты перыяд верагодныя істотныя перамены ва ўрадзе. Магчымы „палёт" шапак.

**(„Звязда").**

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 14 ліпеня ў 14.00.

Заснавальнікі У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.



Тыраж 1.000 экз.
Заказ № 1623.